**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№10(674)**
**7 сакавіка 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

*Са святам вясны і прыгажосці, шаноўныя жанчыны!*

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



*Фота Ул. Скрабатуна.*

**Глыбокае развіталася з зімой і сустрэла вясну.**

**Полацкі раён**

# Быць на крок наперадзе

■ **Чэслаў Якубовіч**

**У гэтым годзе на Полаччыне сапраўдны юбілейны год, бо толькі што адзначылі свае знамянальныя даты буйнейшыя прадпрыемствы Наваполацка – “Нафтан” і “Палімір”.**

А вось у суседнім Полацку з важкімі набыткамі падыходзіць да 55-й гадавіны стварэння горадаўтваральнае ААТ “Полацк-Шкловалакно”. Цяпер ягоная прадукцыя запатрабаваная, пасля ажыўлення сусветнай эканомікі стала адгружацца ў 46 дзяржаў планеты. Удалося палачанам прабіцца і на буйнейшы рынак свету ў Кітаі і на Тайвань. З мэтай павелічэння аб’ёмаў адгрузкі на 2 месяцы паслалі ў Паднябесную спецыялістаў па маркетынгу, хоць адных падобных кітайскіх заводаў працуе больш 100. Завод з Полацка разумее, што выжыве толькі тады, калі будзе гібка рэагаваць на патрэбы рынку, апераджаць сваіх канкурэнтаў хоць бы на крок. І тут ёсць свае дасягненні. На навейшым японскім абсталяванні пачалі палачане выпускаць тканіны, неабходныя для выпуску сучасных планшэтных камп’ютараў і мабільнікаў. Летась на тэхпераўзбраенне на заводзе асвоілі яшчэ больш 60 млрд. рублёў, завяршылі рэканструкцыю важнейшай шклоплавільнай печы № 1. Каб ва ўмовах СГА ўпэўнена адчуваць і на буйным расійскім рынку істотна павялічылі аб’ёмы выпуска шкловалакна і іншых тонкіх канструкцыйных матэрыялаў, шклопластыкавых кампанентаў. У выніку гэта прадпрыемства выйшла на вядучыя пазіцыі ў Еўропе з аб’ёмамі выпуску ў год 150 мільёнаў метраў тканін, 85 % якіх прадаецца на замежных рынках збыту.

**Верхнядзвінскі раён**

# Засталася боль у сэрцах

■ **Станіслаў Раманчук**

**Сімвалам трагедыі беларускага народа ў гады вайны стала спаленая Хатынь, хоць найбольш падобных вогненных вёсак было на Віцебшчыне.**

А яшчэ больш людскіх пакут было ў Верхнядзвінскім раёне, дзе 70 гадоў назад толькі ў адной вёсцы Росіца за дзень нацыстамі было знішчана больш 700 чалавек. З гэтай нагоды ў мясцовым касцёле св. Тройцы адбылася жалобная імша з удзелам не толькі сведкаў той трагедыі, але і шматлікіх вернікаў-паломнікаў з розных куткоў краіны. Падчас вайны гітлераўцы спачатку сагналі мясцовых і жыхароў суседніх вёсак у гэты храм і пратрымалі іх там некалькі сутак. Побач з імі былі два беларускія святары Антон Ляшчэвіч і Юрый Кашыра і 7 манахінь-законніц, якія маглі выратавацца, але не пакінулі землякоў. Мужныя ксяндзы супакойвалі людзей, хрысцілі, спавядалі да апошняга, маліліся і прасілі быць стойкімі. Фашысты пагналі народ на ўскраіну вёскі і спалілі ў гумне. Той дарогай смерці прайшлі і сёлета ўдзельнікі жалобных урачыстасцей, усклалі вянок да крыжа на месцы трагедыі, адноўленага і прыведзенага ў парадак толькі ў 1992 годзе. Дарэчы, пасля гэтага захопнікі і пачалі сваю сумна вядомую карную экспедыцыю, падчас якой загінула амаль 15 тысяч жыхароў тагачаснага Асвейскага раёна з 21, што жылі там. Ніколі не забыць, што за некалькі тыдняў нелюдзі спалілі тады зімой ўсе 158 мясцовых вёсак. Выжылі тыя, хто ўцяклі ў лясы, хто хаваўся ад смерці ў лютыя халады па гушчарах і балотах. Трэба ведаць, што калі ў вайну загінуў кожны чацвёрты беларус, то тут застаўся ў жывых толькі адзін з трох жыхароў…

**Пастаўскі раён**

# Яшчэ і талент творцы

■ **Кастусь Александровіч**

**Нездарма гаворыцца, што здольныя людзі таленавітыя ва ўсім і заяўляюць пра сябе не толькі ў выбранай прафесіі.**

Вось і ў Пастаўскім раёне для многіх было нечаканасцю, калі на шостым дзясятку гадоў знакаміты старшыня тагачаснага калгаса імя Суворава, Герой Сацыялістычнай Працы, Алег Валодзька дасканала вывучыў нямецкую мову. Кіраўнік стаў на ёй свабодна размаўляць і без перакладчыкаў меў зносіны з нямецкімі партнёрамі гаспадаркі, з дапамогай якіх тэхнічна перааснасціў машынна-трактарны парк, дапамог многім цяжка хворым папраўляць сваё здароўе ў заходніх клініках. А як стала болей вольнага часу, Алег Адольфавіч стаў пісаць ды так, што ў адным са сталічных выдавецтваў сёлета пабачыла свет ужо другая ягоная кніга прозы “Сын зямлі і неба”. У гэтай мастацка-дакументальнай аповесці па-майстэрску праз прататып галоўнага героя Пятра прасочваецца жыццёвы шлях аўтара, які быў у свой час адным з самых маладых старшынь занядбанага беднага калгаса ў СССР і пераўтварыў яго дынамічную, шматгаліновую гаспадарку, а родную вёску Навасёлкі даўно ва ўтульны гарадок еўрапейскага тыпу. На Пастаўшчыне такім жа таленавітым творцам быў і Яўген Чарэнка, які на працягу 32 гадоў кіраваў галоўнай бударганізацыяй раёна, жыццё якога абарвалася раптоўна зімой. Да 50-годдзя АБФ “Рассвет Пастаўскі” ён напісаў і выдаў кнігу пра калектыў “След на зямлі”, а потым сур’ёзна заняўся краязнаўствам. Апошнім часам свет пабачылі 4 цыклы яго гістарычных нарысаў-даследаванняў, а апошні - “Зямля і гаспадары: “другія Саветы” пра жыццё даваеннай Пастаўшчыны пачалі друкаваць, калі даследчык рыхтаваў заключную частку нарысаў і пакінуў гэты свет.

# Аб самым надзённым

## СПАД У АЙЧЫННАЙ ЭКАНОМІЦЫ АБВАСТРЫЎ ПРАБЛЕМЫ З УЗВЯДЗЕННЕМ ЖЫЛЛЯ

■ **Аляксандр Цішкевіч.**

**Актыўнасць пакупнікоў з грашыма прыкметна ўзрасла, бо заўтра кошт другаснага жылля будзе яшчэ расці з-за зніжэння аб’ёмаў жыллёвага будаўніцтва. У гэтай галіне відавочны крызіс і велізарны адток кваліфікаваных работнікаў на будоўлі за мяжой. А асноўная прычына існуючых праблем, што ў Беларусі зараз не хапае фінансавых рэсурсаў, каб справіцца з аб’ёмамі будаўніцтва.**

Як і чакалася, гэты год пачаўся для беларусаў з мноства непрыемных сюрпрызаў. Здавалася, за столькі гадоў міфічнай стабільнасці яны ўжо прывыклі да пастаяннага росту цэн і тарыфаў. У падручнікі гісторыі некалі запішуць, як у 2011 годзе пасля чарговай перамогі на прэзідэнцкіх выбарах пастаяннага і адзінага гаранта развіцця грамадства здарыўся неверагодны абвал. Пры закладзеных параметрах інфляцыі ў памеры 7,5-8,5 % гадавы рост цэн дасягнуў рэкордных 108,7 %.

Летась пражылі больш спакайней, хоць індэкс спажывецкіх цэн таксама быў высокім. Аднак сёлета толькі ў студзені інфляцыя набрала такі разгон, што выбрала чвэрць ад вызначанага гадавога плана (12 %). Нашы “нядобразычліўцы”, эксперты МВФ прагназуюць гадавы рост цэн на ўзроўні 29,8%, разлічваючы свае ацэнкі з аналізу рэальных эканамічных працэсаў і сітуацыі ў сусветнай эканоміцы. А вось для простых грамадзян цяпер відавочна, што правальваецца зацверджаная канцэпцыя дзяржаўнай жыллёвай палітыкі РБ да 2015 года.

Цяпер нават у глыбінцы пануе пэўная цішыня на навабудоўлях. На гэты год запланавалі ў Беларусі пабудаваць жылля 6,5 млн. кв. метраў ( у студзені яго здалі 405,4 кв. м, але за кошт дамоў, якія былі ўзведзены яшчэ ў мінулым годзе). Насельніцтва нутром адчувае, што ўсё цяжэй становіцца абзавесціся дахам над галавой. Паўсюдна з восені назіраецца рэзкі рост цэн на жыллё на другасным рынку жылля. Да прыкладу, цяпер нават на ўскраінах у Віцебску старую 1-пакаёвую хрушчоўку не купіш танней за 25 тысяч долараў, а ў прэстыжных раёнах абласнога цэнтра патрыманыя 2-пакаёвыя кватэры сучаснай планіроўкі прадаюцца ўжо па цане ад 70 тысяч долараў.

Актыўнасць пакупнікоў з грашыма прыкметна ўзрасла, бо заўтра кошт другаснага жылля будзе яшчэ расці з-за зніжэння аб’ёмаў жыллёвага будаўніцтва. У гэтай галіне відавочны крызіс і велізарны адток кваліфікаваных работнікаў на будоўлі за мяжой. А асноўная прычына існуючых праблем, што ў Беларусі зараз не хапае фінансавых рэсурсаў, каб справіцца з аб’ёмамі будаўніцтва. За кошт дзяржаўных крэдытаў, нагадаем, сёлета атрымаецца добра, калі ўзвесці жылля ў аб’ёме 2,5 млн. кв. метраў. А хто прафінансуе астатнія 4 мільёны?

Да таго ж сёлета па ўсёй краіне пачалі будаваць толькі 2141новы жылы дом, калі ў студзені 2010 і 2011 гадоў пачыналі ўзводзіць у сярэднім па 3,5 тысячы шматпавярховак. У беларускай сталіцы ў гэтым годзе ўвогуле не да жылля, бо будаўнікі заняты на розных больш прыярытэтных аб’ектах, каб годна падрыхтавацца і правесці чэмпіят свету-2014 па хакеі. Дарэчы, і ў лютым з-за даволі суровай зімы і чакання выхаду ўказа аб долевым будаўніцтве на многіх будоўлях назіралася цішыня. Не ад добрага жыцця ва ўрадзе Беларусі нарадзілася ідэя даць насельніцтву валютныя крэдыты на будаўніцтва жылля.

Па завядзёнцы ніхто не думае, што будзе потым з такімі адчайнымі забудоўшчыкамі, ці змогуць яны потым разлічыцца, калі раптам здарыцца новы фінансавы крызіс. На гэтым фоне ў пачатку сакавіка ў нашай краіне пачаў дзейнічаць новы Жыллёвы кодэкс і беларусам абяцаюць услед за дыферэнцыяцыяй тарыфаў на газ і свет па зацверджанай праграме развіцця жыллёва-камунальнай гаспадаркі ўвесці падобную аплату за ацяпленне. Аднак у нас на жыллёвым рынку, у адрозненне ад той жа Расіі, ніяк не можа запрацаваць механізм іпатэкі пры набыцці нерухомасці.

Па выніках працы за мінулы год у краіне на 12,2 % вырасла колькасць незавершаных жылых дамоў, а раней такіх доўгабудаў у гэтай сферы не было. У сваю чаргу рынак нерухомасці прыкметна ажывіўся і толькі ў Віцебску за дзень-два пасля выстаўлення на продаж другаснае жыллё распрадаецца. У цэлым па Беларусі летась прадалі больш 36 тысяч такіх кватэр і 19 тысяч індывідуальных жылых дамоў. У асобных заможных слаёў насельніцтва, што дзіўна, ёсць вялікія грошы, бо , напрыклад, багатыя мінчане купілі ў студзені 2013 года рэкордную колькасць - амаль 900 кватэр, самая дарагая з якіх была прададзена за амаль 700 тысяч долараў.

Такія сумы проста шакіруюць жыхароў глыбінкі, якія зарабляюць у месяц 2-3 млн. рублёў. А ў планах айчынных упраўленцаў павялічыць колькасць узводзімага арэнднага жылля, будаваць для багатых жыллё прэміум-класа, а для бедных так званыя малыя кватэры-студыі толькі з адным пакоем і кухняй-нішай і асобным санвузлом.

Адразу і не разбярэшся з гэтай нагоды, што ж адбываецца ў Беларусі на самой справе і як тут думаць пра сваё жыллё.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 07.03.13 | | | | Пятніца 08.03.13 | | | | Субота 09.03.13 | | | | Нядзеля 10.03.13 | | | | Пнд 11.03.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -1 | -2 | +3 | -3 | -5 | -5 | -1 | -5 | -6 | -7 | -2 | -5 | -7 | -10 | -5 | -9 | -10 | -10 | -4 |
| Ціск | 742 | 741 | 742 | 745 | 746 | 746 | 746 | 748 | 749 | 749 | 750 | 752 | 753 | 753 | 755 | 756 | 758 | 757 | 757 |
| Вільготнасць | 92 | 96 | 50 | 74 | 77 | 68 | 34 | 54 | 56 | 55 | 22 | 43 | 64 | 57 | 12 | 27 | 63 | 48 | 10 |
| Вецер м/сек | 3 | 2 | 5 | 4 | 3 | 5 | 6 | 7 | 3 | 4 | 5 | 4 | 2 | 4 | 5 | 5 | 1 | 2 | 1 |
| | З | Пн-У | Пн-У | У | Пн-У | Пн-У | Пн-У | Пн-У | Пн-У | Пн-У | Пн-У | У | Пн-У | Пн-У | Пн-У | У | Пд | Пд | Пд |

## Дзень за днём

**Ва ўрадзе Беларусі пацвердзілі, што грошы на мадэрнізацыю прадпрыемстваў ёсць, але няма эфектыўных, перспектыўных праектаў, упраўленцы не хочуць рызыкаваць. З пачатку года толькі ў студзені беларусы купілі замежнай валюты яшчэ на 80 млн. долараў, бо рост цэн дасягнуў за месяц ужо 3 %. Грашовыя даходы грамадзян з-за высокай інфляцыі за студзень праіндэксавалі. Летась у краіне прадалі 1,5 млн. мабільных тэлефонаў, іх продаж вырас на 35 %, а лідарам рынку стаў Samsung. У Беларусі ніколі не адмовяцца ад прызыву на воінскую службу.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Камісар ААН па правах чалавека Наві Пілай назвала новую колькасць ахвяр грамадзянскай вайны, якая з сакавіка 2011 года забрала жыцці амаль 70 тысяч чалавек.

**КНДР.** Савет бяспекі ААН і большасць дзяржаў свету рэзка асудзілі 3-я па ліку ядзерныя выпрабаванні тут, супраць самай закрытай і паўгалоднай краіны ўвядуць новыя санкцыі.

**Украіна.** Ніхто не пацярпеў, не адбылося выкіду радыяцыі пасля абрушэння пад цяжарам снегу часткі сцяны і даху машыннай залы 4-га энергаблока Чарнобыльскай АЭС.

**Расія.** На ўсім Урале людзі бачылі падзенне метэарыту, у Чалябінску і іншых гарадах былі каля тысячы параненых, яго кавалкі разбурылі шэраг аб'ектаў, павыбівалі шкло з вокнаў.

**Ватыкан.** Поўнай нечаканасцю для каталікоў свету і св. Прэстола стала добраахвотная адстаўка ад пасады па стане здароўя 85-гадовага Папы Рымскага немца Бенедзікта XVI.

**Іран.** Улады ўпершыню прызналі, што страцілі за год 40 мільярдаў долараў ад уведзеных санкцый ЗША за ядзерную праграму і эмбарга ЕС на нафту, нацыянальная валюта рыал абвалілася ў 3 разы.

**Венесуэла.** Пры гіганцкіх запасах энерганосьбітаў улады абясцэнілі сваю нацыянальную валюту балівар на 46,5 %, на чорным рынку яго курс да $ у 3 разы вышэй афіцыйнага.

**ЗША.** Прэзідэнт Барак Абама заявіў, што да канца 2014 года амерыканскія войскі будуць поўнасцю выведзены з Афганістана на радзіму, там павінна скончыцца вайна.

**Бельгія.** Упершыню ў сваёй гісторыі лідары дзяржаў Еўрасаюза пасля напружаных дэбатаў дамовіліся скараціць бюджэт ЕС і яго расходы на бліжэйшыя 7 гадоў.

**Латвія.** Прэзідэнт А. Берзіньш падпісаў закон аб пераходзе краіны з 1 студзеня 2014 года на еўра, абмен латаў на іх будзе на працягу 6 месяцаў, а ў нацбанку – пастаянна.

**Кітай.** Па аб'ёму знешняга гандлю і паслуг – 3,87 трл. долараў краіна ў 2012 годзе выйшла на 1-е месца ў свеце і абагнала ЗША, стала важнейшым гандлёвым партнёрам і для ЕС.

**Іспанія.** Да рэкордна нізкага ўзроўню 19 % упаў рэйтынг прэм'ер-міністра М. Рахоя пасля абвінавачванняў яго ў карупцыі, а амаль 26 % іспанцаў не могуць знайсці сабе работу.

**Іран.** Спецслужбы арыштавалі двух дачок экс-прэм'ер-міністра Мураві, аднаго з лідараў апазіцыі, ён сам 2 гады пад дамашнім арыштам, у чэрвені будуць выбары прэзідэнта.

**Кыргыстан.** Ваенны суд краіны пакараў 24 гадамі турмы экс-прэзідэнта К. Бакіева, які ўцёк у Беларусь, яго брата Жаныша – да пажыццёвага зняволення за забойствы людзей.

**Расія.** Па новаму закону з 1 чэрвеня рускім забаранілі курыць у грамадскіх месцах: ВНУ, дзяржустановах, ва ўсіх школах, бальніцах, на стадыёнах, месцах грамадскага харчавання.

**Германія.** На 63-м Берлінскім кінафестывалі ў праграме еўрапейскага кінарынку паказалі літоўска-ірландскі фільм "Пад каўпаком" аб тым, як Беларусь блізка і далёка ад Еўропы.

# Увайшоў у сілу новы Жыллёвы кодэкс




■ **Сяргей Каралевіч, БелаПАН.**

**2 сакавіка ўвайшла ў сілу новая рэдакцыя Жыллёвага кодэкса Беларусі, што замяніла версію дакумента 1999 года. 28 жніўня 2012 года новы кодэкс падпісаў Аляксандр Лукашэнка.**

Ён складаецца з шасці частак, 32 раздзелаў і 225 артыкулаў. У дакуменце па-новаму ўрэгуляваныя найбольш складаныя пытанні ў сферы жыллёвых адносінаў, у тым ліку: даступнасці жылля; уліку тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў; узнікнення, ажыццяўлення і спынення права ўласнасці; валодання і карыстання жылымі памяшканнямі, іх перабудоўвання, перапланіроўкі і эксплуатацыі; якаснага аказання жыллёва-камунальных паслуг; прыватызацыі дзяржаўнага жыллёвага фонду; высялення з жылых памяшканняў; стварэння і дзейнасці арганізацый забудоўшчыкаў; сумеснага домаўладання.

У кодэксе замацаваныя палажэнні, згодна з якімі грамадзянам, якіх высяляюць з жылых памяшканняў, павінны быць выдзелены іншыя жылыя памяшканні. Разам з тым прадугледжаны і выпадкі высялення без дання жылых памяшканняў. Так, уласнікам даецца права выселіць без дання іншых жылых памяшканняў былых членаў сям'і, якія не маюць долі ў праве ўласнасці, калі іншае не прадугледжана шлюбным дагаворам ці пісьмовым пагадненнем.

Кодэкс таксама ўтрымлівае палажэнне, якое дазваляе вырашаць пытанне пагашэння запазычанасці па аплаце за жыллёва-камунальныя паслугі. Так, калі наймальнікі жылога памяшкання дзяржаўнага жыллёвага фонду без паважлівых прычын дапусцілі шасцімесячную запазычанасць па аплаце жыллёва-камунальных паслуг, яны могуць быць выселены ў судовым парадку з даваннем ім жылога памяшкання меншай плошчы і ніжэйшай якасці.

Апрача таго, кодэкс удакладняе структуру платы за жыллёва-камунальныя паслугі, што прадугледжвае выдзяленне з платы за тэхнічнае абслугоўванне ў асобны плацеж платы за наяўны рамонт, якая будзе ўносіцца для кампенсацыі фактычных затрат па прадухіленні інтэнсіўнага зносу, аднаўленні спраўнасці і ліквідацыі пашкоджанняў канструктыўных элементаў, інжынерных сістэм дома. Пры гэтым арганізацыям, якія ажыццяўляюць эксплуатацыю жыллёвага фонду і (або) аказваюць жыллёва-камунальныя паслугі, ставіцца ў абавязак указанне ў плацежных дакументах тарыфаў, аб'ёмаў і пераліку аказания жыллёва-камунальных паслуг па шматкватэрным доме.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Салігорск.** На красавік намецілі на "Беларуськаліі" пуск першага свайго завода па выпуску да 240 тысяч тон у год камбінаваных змешаных угнаенняў, якія карыстаюцца попытам ў свеце.

**Жлобін.** Райцэнтру далі толькі 7 месяцаў да падрыхтоўкі рэспубліканскіх "Дажынак-2013", на іх правядзенне сёлета спачатку прэтэндавалі Рагачоў, а потым сам Гомель.

**Баранавічы.** Ініцыятыўная група пачала збор подпісаў за павышэнне заробкаў і пенсій у Беларусі хаця б да 2,5-3 мільёнаў рублёў і за тое, каб яны павышаліся не толькі напярэдадні выбараў.

**Горкі.** Падчас рабочай паездкі старшыня Савета Рэспублікі А. Рубінаў паведаміў, што зараз у калгасах Беларусі налічваецца больш 19 тысяч вакантных рабочых месцаў.

**Быхаў.** Раённы суд пакараў на выязным пасяджэнні 4-х даярак калгаса "Валадарскі" штрафамі па 1 мільёну рублёў кожную за спробу скрасці з фермы 10 літраў малака для дзяцей.

**Астравец.** Карпарацыя "Расатам" выказала поўнае задавальненне ад ўзорна-паказальнай арганізацыі тут падрыхтоўчага этапа будаўніцтва будучай Беларускай АЭС.

**Бабруйск.** У гістарычнай частцы горада раптам абвалілася сцяна жылога дома плошчай 20 квадратных метраў, у ім знаходзіўся магазін аўтазапчастак, людзі не пацярпелі.

**Гомель.** Суд вярнуў гораду першыя 15 з 25 кватэр, выдзеленых чыноўнікамі "патрэбным" людзям і сваякам па заніжаных цэнах, па гэтай справе раней арыштавалі мэра В. Піліпца.

**Мінск.** Камандзір сталічнага АМАПа палкоўнік міліцыі А. Лукомскі пацвердзіў, што яго супрацоўнікі атрымоўваюць у Мінску кватэры на працягу 5-7 гадоў бездакорнай службы.

**Смаргонь.** Міліцыя затрымала 19-гадовага хлопца, які на падпітку ноччу пасварыўся з сабутэльнікам з-за жанчыны на ягонай кватэры і забіў знаёмага 7 ударамі сякеры.

**Нароўля.** Супраць 17-гадовага навучэнца Палескага аграрнага каледжа распачалі крымінальную справу за спробу ўкрасці ноччу разам з сябрам з калгаснай фермы двух парасят.

**Мінск.** Упершыню ў РБ урачы РНПЦ "Кардыялогія" правялі за 4 гадзіны аперацыю па перасадцы сэрца дзіця, хворай 11-гадовай дзяўчыны, на чарзе яшчэ 5 такіх дзетак.

**Ратамка.** Пасля пільнай праверкі КДБ знайшоў першыя факты быццам карупцыі на 39 мільёнаў рублёў у Рэспубліканскім цэнтры алімпійскай падрыхтоўкі коннага спорту, конегадоўлі.

**Дзятлава.** Да 5 гадоў абмежавання волі прыгаварыў суд камбайнера СВК "Граніт-агра", які зламаў два амерыканскія камбайны "Джон Дзір" калег, каб перамагчы на жніве-2012.

**Магілёў.** Па невядомай прычыне вечарам у вёсцы Масток абрушылася вадананапорная вежа вышынёй 15 метраў 2010 года пабудовы, якая абслугоўвала ферму прыгараднага калгаса.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** За невыкананне патрабаванняў прэзідэнта па ўзроўні заработнай платы прэм'ер-міністр Беларусі М. Мясніковіч раскрытыкаваў кіраўніцтва Віцебскага абласнога выканкама.

**Дуброўна.** Кіраўнік вобласці А. Косінец даў 48 гадзін гаспадаркам краю і іншых раёнаў на ліквідацыю выяўленых шматлікіх фактаў безгаспадарчасці, захоўвання збожжа і тэхнікі.

**Сянно.** Дзяржкантроль выявіў у насенневодчым саўгасе імя Данукалава 277 запушчаных гектараў зямлі, якія зараслі пустазеллем і кустамі, старшыню сельсавета звольнілі з працы.

**Віцебск.** На фірме "Белвест" напярэдадні яе 25-годдзя выпусцілі 40-мільённую пару абутку, 70 % прадукцыі ідзе зараз на экспарт, толькі ў Расіі працуе 286 крам гэтай фірмы.

**Полацк.** Аператыўныя дзеянні пажарных МНС дапамаглі выратаваць на пажары ў мясцовай птушкафабрыцы 15 тысяч куранят-бройлераў, калі загарэўся дах птушніка.

**Лепель.** Да канца года яшчэ на 4-х новых фермах раёна з'явяцца дояробаты, яшчэ столькі аснасцяць сучаснымі даільнымі заламі з лабараторыямі і ветаптэкамі.

**Гарадок.** У ЗАГСе ў райцэнтры ўпершыню пачалі рэгістраваць шлюбы маладых пар па старажытных народных традыцыях на беларускай мове, са спевамі, званочкамі на памяць.

**Наваполацк.** Бляхары будупраўлення № 126 трэста № 16 атрымалі незвычайны заказ на выраб вежаў для праваслаўных храмаў па просьбе архіепіскапа Полацкага Феадосія.

**Віцебск.** Некамплект супрацоўнікаў у штаце абласной міліцыі складае 8,8 %, аднак толькі ў студзені сёлета ў ЛПП накіравалі на лячэнне і перавыхаванне яшчэ 95 злосных п'яніц.

**Паставы.** На тэрыторыі раёна за год былі абкрадзены 96 жылых дамоў і кватэр, з кожных 10 крадзяжоў удаецца раскрыць цяпер толькі 4 на фоне зніжэння колькасці злачынстваў.

**Расоны.** Яшчэ 2 жылыя дамы пабудаваў для сваіх работнікаў мясцовы лясгас, а восць толькі што набыты амкадораўскі пагрузчык лесу прыйшлося адправіць назад на рамонт.

**Глыбокае.** Занальны дзяржархіў прадоўжыў выдавецкую дзейнасць і выдаў новы зборнік дакументаў "Пасляваеннае аднаўленне народнай адукацыі ў заходніх раёнах" (1944-1950).

**Наваполацк.** Следчы камітэт спыніў крымінальную справу супраць 28-гадовага рабочага, які заступіўся за пасажыра і пацягаў за валосы кантралёра-хама гарадскога аўтобуса.

**Орша.** Мясцовая спартсменка Аліна Талай стала чэмпіёнкай РБ па лёгкай атлетыцы ў залах, потым двойчы была прызёрам на міжнародных камерцыйных турнірах у Бельгіі.

**Віцебск.** Пад пешаходным мастом у вусці ракі Віцьба па невядомых прычынах загінулі дзясяткі зімаваўшых тут качак, магчыма, з-за атраўлення прадуктамі, якімі кармілі людзі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*



Адкуль згушчонка? Бацян у дзюбе прынёс!


Глыбоцкая пошта вылепіла са снегу тузін розных скульптураў. Натуральна, паштальёнаў альбо, як іх назвала начальнік пошты Сафія Хрол (на пярэднім плане) – «снегальёны».


**Возера Кагальнае**. Лыжнікі кругам ды рыбакі касяком.

# Глыбокае праводзіла зіму і сустрэла вясну

■ Уладзімір Скрабатун

**Зіма скончылася. Не была яна вельмі сцюдзёнай, частыя адлігі, шмат снегу і, хутчэй за ўсё, сыйдзе яна канчаткова вялікай паводкай...**

Свята провадаў зімы, якое адбылося ў нядзелю 3 сакавіка, прыпала на вялікі снегапад і завею. Ну дык і зіму праводзілі.

Якія б уражанні не пакінула свята провадаў зімы на глыбачанаў, але гэта, так ці інакш, была адна з трэніровак (размінак) арганізацый і ўстановаў горада перад правядзеннем асноўнага свята года – Вішнёвага Фэсту. І на свяце провадаў зімы былі задзейнічаныя ўсе асноўныя прадпрыемствы горада і бліжэйшых ваколіцаў.

Святкаванне провадаў зімы праходзіла не толькі на Цэнтральным пляцы горада, але і на возеры Кагальным і яго берагах: спаборніцтвы па лыжных гонках, рыбнай лоўлі, выраб скульптураў са снегу.

Нягледзячы на неспрыяльнае надвор'е свята провадаў зімы прайшло масава і весела.


Глыбоцкая птушкафабрыка – актыўны ўдзельнік усіх масавых мерапрыемстваў, якія ладзяцца ў нашым горадзе.
А ўжо калі праходзіш міма іхняга павільёна – будзь пільны! Проста так не праскочыш – зараз жа уцягнуць у бяспройгрышную латарэю сыграць.


Вельмі весела было побач з павільёнам Глыбоцкага малочна-кансервавага камбіната.

# Беларусь знаходзіцца сярод краін-лідараў па ліку адмоваў ва ўездзе ў ЕС

**Беларусь знаходзіцца сярод краін-лідараў па ліку адмоў ва ўездзе ў ЕС. Аб гэтым сведчаць даныя, атрыманыя Беларускім інстытутам стратэгічных даследаванняў (BISS). Паводле слоў аналітыка BISS Андрэя Елісеева, у 2011 годзе ў краіны ЕС не змаглі ўехаць больш як шэсць тысяч грамадзян Беларусі. У цэлым у краіне было выдадзена ўсяго 4,6% ад усіх шэнгенскіх віз свету.**

Паводле даных даследаванняў інстытута, лік адмоў грамадзянам Беларусі ва ўездзе ў ЕС з 2008 года павялічваецца ў сярэднім на 10% у год. Аналітыкі звязваюць гэта галоўным чынам з агульным ростам выдаваных у Беларусі шэнгенскіх віз і ростам ліку паездак у Еўрасаюз у гэты перыяд.

Больш як 95% выпадкаў адмоў ва ўездзе прыходзяцца на пагранічныя органы Польшчы і Літвы. Гэта звязана з натуральнай перавагай перамяшчэння грамадзян Беларусі ў ЕС праз польскую і літоўскую межы.

Паводле інфармацыі BISS, дзве асноўныя прычыны адмоў ва ўездзе ў ЕС звязаныя з праходжаннем мяжы з несапраўднай візай ці відам на жыхарства, або з адсутнасцю дастатковых грашовых сродкаў для запланаванага знаходжання ў ЕС.

Пры гэтым аналітыкі адзначаюць, што высокая доля адмоў з прычыны недастатковасці фінансавых сродкаў на запланаваны перыяд знаходжання за мяжой з`яўляецца характэрнай менавіта для Беларусі. Беларускія грамадзяне часцей за жыхароў любой іншай краіны сутыкаюцца з адмовамі ва ўездзе ў ЕС па фінансавай прычыне.

Па ўсёй бачнасці, частка выпадкаў з гэтай катэгорыі, нароўні з адсутнасцю дастатковых фінансавых сродкаў, складаюць выпадкі праходжання без сапраўднага медыцынскага поліса, адзначае аналітык.

У той жа час у Беларусі адзначаецца адносна малая доля адмоў з прычыны нездольнасці прад`явіць доказы мэты паездкі і ўмоў знаходжання. З 2006 года лік адмоў беларусам ва ўездзе з гэтай прычыны паменшыўся амаль у пяць раз.

Статыстыкі па выніках 2012 года пакуль няма, зазначыў Андрэй Елісееў. Аднак, мяркуючы па звестках за першы квартал мінулага года, колькасць адмоў у выдачы беларусам візы ў краіны ЕС паменшылася прыкладна на 20%. Асабліва заўважна знізілася колькасць адмоў з прычыны недастатковасці фінансавых сродкаў.

*А. Янушэўская, БелаПАН.*



# Ці Напалеон даў назву Парыжу Пастаўскаму?

У шматлікіх публікацыях пра вёску Парыж, што на Пастаўшчыне, многія аўтары прыводзяць легенду пра тое, што назву гэтаму паселішчу даў сам Напалеон, калі спыняўся ў гэтых мясцінах у час свайго паходу на Расію. Гэта версія выглядае прывабна і заманліва, улічваючы тое, што Банапарт сапраўды праязджаў праз тэрыторыю сучаснага Пастаўскага раёна. Але на самай справе французскі імператар не меў ніякага дачынення да ўтварэння назвы, яна з'явілася значна раней. У кнізе Барталамея Гаўрыльчыка "Дэканат полацкі ў святле апісання парафій з 1784 года", якая выйшла ў свет у Беластоку ў 2005 годзе, сустракаем запіс, што ў парафіі дунілавіцкай за дзве мілі на поўнач ад дунілавіцкага касцёла знаходзіцца фальварак Парыж (Parуź), які належыць Тызенгаўзу. На той час пастаўскімі маёнткамі валодаў падскарбій надворны Вялікага Княства Літоўскага Антоній Тызенгаўз, які, магчыма, і назваў адзін са сваіх фальваркаў у гонар французскага Парыжа. Напалеону тады ішоў толькі пятнаццаты год.

Падобная сітуацыя і з назвай вёскі Барадзіно Пастаўскага раёна. Задоўга да знакамітай барадзінскай бітвы пад Масквой, яшчэ ў 1784 годзе, яна была вядома як уладанне ясной пані Варыжынай у задзеўскай парафіі свірскага дэканата.

*Крыніца: Ігар ПРАКАПОВІЧ, краязнаўца, «Пастаўскі Край».*

# Жыхар Шаркоўшчыны, супрацоўнік банка, скраў у кліентаў з картак 400 млн рублёў

**Справа за крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі (ч. 4 арт. 210 КК) распачата ва УУС Віцебскага аблвыканкама ў дачыненні да жыхара гарадскога пасёлка Шаркоўшчына.**

Спецыяліст па абслугоўванні фізічных асоб аддзела рознічнага бізнесу аднаго з банкаў у Віцебскай вобласці з чэрвеня 2011 года па кастрычнік 2012 года завалодаў незапатрабаванымі банкаўскімі крэдытнымі картамі кліентаў, пасля чаго з карт-рахункаў выкраў 421 млн. 676 тыс. рублёў. Кампенсавана 140 млн. рублёў.

Крымінальная справа распачата паводле матэрыялаў праверкі ўпраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі УУС Віцебскага аблвыканкама.

# За студзень беспрацоўе ў Беларусі вырасла на 6,1%

**Паводле звестак Міністэрства працы і сацыяльнайабароны, колькасць беспрацоўных, зарэгістраваных у органах па працы, занятасці і сацыяльнай абароне, на канец студзеня 2013 года склала 26,5 тыс. чалавек, што на 13,5% менш, чым на канец студзеня 2012 года, і на 6,1% больш, чым на канец снежня 2012-га.**

Як паведамляе Белстат, узровень зарэгістраванага беспрацоўя на канец студзеня 2013 года склаў 0,6% ад эканамічна актыўнага насельніцтва (на канец студзеня 2012 года — 0,7%).

У эканоміцы Беларусі ў студзені 2013-га было занята 4 млн. 537,5 тыс. чалавек, што на 0,9% менш, чым у студзені 2012 года. Арганізацыямі краіны (без малых і мікраарганізацый без ведамаснай падпарадкаванасці) у студзені 2013 года было прынята на працу 55,6 тыс. чалавек, у тым ліку па дадаткова ўведзеных працоўных месцы — 3,2 тыс. чалавек, звольнена па розных прычынах 60,8 тыс. чалавек.

З агульнай колькасці звольненых 7,1% было звольнена за прагул і іншыя парушэнні працоўнай дысцыпліны, 1,1% — у сувязі са скарачэннем колькасці або штату работнікаў, ліквідацыяй арганізацый.

*Ганна Афоніна, БелаПАН*

# Мікалай Уласевіч перамог Дэпартамент міграцыі Літвы ў судзе

**У панядзелак Віленскі акружны адміністрацыйны суд ануляваў рашэнне Дэпартамента міграцыі, які забараніў уезд у Літву грамадзяніну Беларусі Мікалаю Уласевічу, антыядзернаму актывісту з Астравеччыны і аўтару нашага сайта.**

Суд не знайшоў дадзеных пра тое, што Уласевіч можа ўяўляць пагрозу дзяржаўнай бяспецы ці грамадскаму парадку.

Уласевіч быў запрошаны ўзяць удзел у дыскусіі пра атамную энергетыку, якая праходзіла 23 верасня ў Вільні, у парламенце. Аднак літоўскія памежнікі не ўпусцілі Уласевіча, калі ён збіраўся перасекчы мяжу ў Лаварышках.

Літоўскія службовыя асобы афіцыйна не каментуюць матываў, па якіх забаранілі яму ўезд у Літву.

Сам Уласевіч не браў удзел у пасяджэнні суда ў панядзелак, але ягоны адвакат сказаў, што здаволены рашэннем суда.

Суд прысудзіў на карысць Уласевіча 100 літаў выдаткаў на судовае разбіральніцтва.

*Крыніца: BNS*

# Плата за харчаванне дзяцей у дзіцячых садках павялічыцца ў паўтара раза

**Плата за харчаванне дзяцей у дзіцячых садках Беларусі павялічыцца з 1 сакавіка ў паўтара раза. Адпаведнае рашэнне прынята пастановай Савета міністраў ад 25 лютага 2013 года.**

Як паведамляе прэс-служба ўрада, цяпер бацькі аплачваюць 40% кошту харчавання дзяцей у дзіцячых садках. Згодна з пастановай, збіранне платы павялічыцца да 60% ад дзейных грашовых норм расходаў на харчаванне ў дзень на аднаго выхаванца, у залежнасці ад узросту дзяцей, віду і рэжыму працы дашкольнай установы.

У выніку памер платы за харчаванне павялічыцца на 50% у месяц і складзе: ва ўстанове дашкольнай адукацыі з рэжымам 12-гадзіннага знаходжання дзяцей ад 1 да 3 гадоў — 178,2 тыс., ад 3 да 6 гадоў — 214,9 тыс. Ва ўстанове дашкольнай адукацыі з рэжымам знаходжання 10,5 гадзіны памер платы дзяцей ад 1 да 3 гадоў складзе 136,7 тыс., ад 3 да 6 гадоў — 173,4 тыс. у месяц.

Рэалізацыя пастановы не патрабуе ўнясення змяненняў у іншыя нарматыўныя прававыя акты і не пацягне дадатковых фінансавых срodкаў з рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, паведамляе прэс-служба Саўміна.

*Андрэй Серада, БелаПАН.*



Photo ByMedia.net

# У 2012 г. за мяжу з'ездзіў кожны дваццаты беларус-турыст

**У 2012 годзе колькасць турыстаў, якія арганізавана выязджалі з Беларусі за мяжу, склала 492,8 тыс. чалавек і павялічылася ў параўнанні з 2011 годам у 1,5 раза.**

Паводле інфармацыі Нацыянальнага статыстычнага камітэта, па стане на канец 2012 года ў краіне ажыццяўлялі турыстычную дзейнасць 958 арганізацый, паслугамі якіх скарысталіся больш чым 670 тыс. арганізаваных турыстаў і 602 тыс. экскурсантаў.

У краіны СНД арганізавана выехалі 157 тыс. чалавек, у краіны па-за СНД — 292,7 тыс. чалавек, што больш за ўзровень 2011 года адпаведна ў 1,5 раза і ў 1,6 раза.

У 2012 годзе найбольш наведвальнымі замежнымі краінамі традыцыйна заставаліся Расія, Украіна, Балгарыя, Грэцыя, Егіпет, Іспанія, Італія, Літва, Польшча, Турцыя, Чэшская Рэспубліка.

На долю гэтых краін прыпадала амаль 90% ад агульнай колькасці беларускіх турыстаў, якія арганізавана выязджалі за мяжу.

Паводле звестак Міністэрства па падатках і зборах, у 2012 годзе на тэрыторыі Беларусі ажыццяўлялі дзейнасць 1.775 суб'ектаў аграэкатурызму (на 199 суб'ектаў больш, чым у 2011 годзе), у тым ліку ў Брэсцкай вобласці — 199, Віцебскай — 401, Гомельскай — 358, Гродзенскай — 229, Мінскай — 412, Магілёўскай — 176.

Колькасць турыстаў, якія скарысталі паслугі аграэкатурызму за 2012 год, склала 222,6 тыс. чалавек, што ў 1,5 раза больш, чым у 2011 годзе. Грамадзяне Беларусі ў агульнай колькасці аграэкатурыстаў склалі 82,7%.

*БелаПАН*

# Віцяблянін, які выйграў у казіно 15 мільёнаў, абкралі выпадковыя сябрукі

**Віцебскі заўсёднік казіно выйграў 15 мільёнаў рублёў. Поспех мужчына вырашыў адзначыць з двума выпадковымі знаёмымі.**

У парку на вуліцы Хмяльніцкага кампанія прыняла на грудзі. А калі сябрукі разышліся, гульняман выявіў, што партманетка з выйгрышам знікла.

На выручку прыйшла міліцыя. Супрацоўнікі праваахоўных органаў апыталі персанал казіно і ўсталявалі прыкметы падазраваных. Адным з іх стаўся 24-гадовы сталы наведвальнік казіно. Неўзабаве яго затрымалі. Але ў партманетцы пры дадглядзе ў яго знайшлі ўжо "распалавіненую" суму – 8 мільёнаў рублёў…

*Па інфармацыі сайта УУС Віцебскага аблвыканкама.*

# За гадзіну беларус зарабляе ў 8 разоў менш, чым немец

**Сярэднегадзінны заробак у Германіі складае 16,6 еўра. Трохі меншы, каля 16 еўра, ён у Брытаніі і Францыі. У Італіі ён складае 14,5 еўра. Нашы суседзі ў Літве і Латвіі зарабляюць у сярэднім 3,44 і 3,78 еўра за гадзіну.**

У Беларусі чалавек за гадзіну зарабляе ў сярэднім прыблізна 2 еўра. З краін Еўрасаюза такі нізкі паказчык мае толькі Балгарыя.

Чаму разрыў у заробках такі вялікі? Прадукцыйнасць працы беларуса і немца розніцца, але ж не ў восем разоў. Справа перадусім у тым, што беларуская дзяржава забірае большую долю сродкаў сабе, каб самой жа і пераразмяркоўваць іх і тым самым рабіць грамадзян залежнымі ад сябе.

Таксама Беларусь адстае ад краін ЕС у энерга- і матэрыялаэфектыўнасці. Не апошняе значэнне мае і якасць арганізацыі грамадства. Беларусь затрачвае нашмат больш сродкаў на сістэму кантролю, у той жа час у нашай краіне большая доля насельніцтва жыве, не робячы ніякай карыснай працы.

*Сяргей Гезгала*

# Псіхічна нездаровы палачанін «замініраваў» псіхіятрычную бальніцу

**Крымінальная справа за заведама непраўдзівае паведамленне пра небяспеку паводле часткі 1 артыкула 340 Крымінальнага кодэкса распачата ў дачыненні да 40-гадовага жыхара Полацка, інваліда II групы па псіхічным захворванні.**

Мужчына падазраецца ў тым, што раніцай 3 сакавіка па тэлефоне 102 паведаміў пра закладзеную выбуховую прыладу ў Полацкай абласной псіхіятрычнай бальніцы.

Падчас праведзенага комплексу мерапрыемстваў ніякіх выбухованебяспечных прадметаў ва ўстанове аховы здароўя не знойдзена.

Падазраваны змешчаны ў «замініраваную» бальніцу. Раней ён ужо быў судзімы за такія злачынствы.

*БелаПАН.*

# Паляванне на кабана – толькі з вышкі

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Паляванне з'яўляецца адным з самых старадаўніх і любімых захапленняў людзей. У старажытныя часы людзі палявалі, каб здабыць сабе пражытак, але з цягам часу паляванне паступова змяняецца. Шмат хто з паляўнічых разглядае паляванне не як нагоду здабычы дзікага звера, а хутчэй як спаборніцтва, хто-каго абхітрыць, адрэналін б'е праз край. Такім паляўнічым трэба не мяса, а сапраўды трафей.**

У сакавіку месяцы на тэрыторыі рэспублікі дазволена паляванне на дзіка – з засады з вышкі, ваўка, лісіцу звычайную, сабаку янотападобную, баклана вялікага, чаплю шэрую, крумкача шэрага, сароку. Увага, паляўнічыя, – паляванне на кабана, толькі з вышкі, расчахляць і заражаць стрэльбу можна толькі на вышцы і на прыканцы палявання стрэльбу неабходна разраджаць і зачахляць таксама на вышцы.

З 10 сакавіка дазволена паляванне на гусака – шэрага, белалобага і гуменніка. У паляванні на ўказаную дзічыну таксама ёсць асаблівасці. Паляванне дапушчаецца толькі ў светлы час сутак, раніцай або ўвечары, зброя павінна быць зараджаная толькі шротавымі патронамі (5,25 мм і вышэй – гэта карцеч), ужываць зброю ў перыяд часу з **11** да **18** гадзін забаронена. Спосаб палявання – стрэльбавы з засады (скрадка), г.зн. павінна быць абсталявана ўтоенае месца палявання (хованка, маскіровачная сетка, будан і г.д.). З **20** сакавіка дазволена паляванне на глушца і цецерука

Хацелася б яшчэ раз звярнуцца да рыбаловаў-аматараў і нагадаць, што з **1** сакавіка па **31** сакавіка дзейнічае забарона на лоўлю шчупака ўсімі спосабамі і прыладамі лоўлі. Грамадзяне, якія парушылі забарону на лоўлю шчупака, будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры ад 10 да 50 базавых велічынь з пакрыццём шкоды, за 1 асобіну шчупака 300 тысяч рублёў.

Супрацоўнікі міжрайінспекцыі выказваюць велізарную падзяку грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў барацьбе з парушальнікамі прыродаахоўнага заканадаўства.

Вы можаце патэлефанаваць на тэлефон «гарачая лінія»: 8-02156-28670 – кругласутачна, маб.: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.



# У Докшыцкім раёне сёлета зачыняць некалькі школ

**У Докшыцкім раёне на цяперашні час налічваецца 13 малакамплектных школ. У бягучым годзе стаіць пытанне аб закрыцці і рэарганізацыі некалькіх устаноў адукацыі раёна.**

Толькі за апошнія пяць год у Беларусі было закрыта 450 школ, яшчэ 543 – рэарганізаваны. У бягучым годзе плануецца закрыць 114 устаноў агульнай сярэдняй адукацыі і 96 рэарганізаваць. На Віцебшчыне падлягаюць закрыццю ў бліжэйшы час 24 школы, а 46 – рэарганізацыі, паведамляюць «Родныя вытокі».



# Банкі Беларусі будуць кантраляваць мэтавае выкарыстанне прадастаўленых юрыдычным асобам крэдытаў

**Банкі Беларусі будуць кантраляваць мэтавае выкарыстанне прадастаўленых юрыдычным асобам крэдытаў. Адпаведны ўказ нумар 107 «Аб правядзенні кантрольных абмераў» кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка падпісаў 4 сакавіка, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе беларускага лідара.**

«ААТ «ААБ Беларусбанк», ААТ «Белаграпрамбанк» і ААТ «Банк развіцця Рэспублікі Беларусь» надзяляюцца паўнамоцтвамі на правядзенне кантрольных абмераў аб'ёмаў выкананых будаўніча-мантажных работ і існуючых затрат на аб'ектах, будаўніцтва (рэканструкцыя) якіх ажыццяўляецца з выкарыстаннем крэдытаў, прадастаўленых гэтымі банкамі юрыдычным асобам», - праінфармавалі ў прэс-службе.

Гэта норма распаўсюджваецца на крэдыты, прадастаўленыя на льготных умовах, для пагашэння якіх або выплаты працэнтаў па іх прыцягваецца бюджэтныя сродкі ці сродкі пазабюджэтных фондаў.

Банкі таксама надзяляюцца адпаведнымі паўнамоцтвамі адносна крэдытаў, прадастаўленых па праектах, уключаных у праграмы, зацверджаныя Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і (або) урадам.

«Указам прадугледжваецца, што названыя банкі ў выпадку выяўлення завышэння аб'ёмаў і (або) кошту выкананых будаўніча-мантажных работ і існуючых затрат маюць права браць з падрадчыка (або спаганяць з яго) сумы такога завышэння з улікам індэксацыі», - адзначылі ў прэс-службе.

Рэалізацыя ўказа дасць магчымасць узмацніць кантроль за мэтавым выкарыстаннем крэдытаў і іншых форм дапамогі, якая аказваецца дзяржавай нефінансаваму сектару эканомікі, павысіць эфектыўнасць выкарыстання дзяржаўных укладанняў і стварыць механізм эканамічнай адказнасці за якасць работ на ўсіх стадыях будаўніцтва аб'ектаў, якія фінансуюцца за кошт бюджэтных сродкаў.

*БЕЛТА*

# Ешце каляровае

**Гэтак прапануе амерыканскі часопіс Health. Каляровыя садавіна і гародніна ўтрымліваюць фітанутрыенты - раслінныя рэчывы, якія здольныя абараніць ваша здароўе.**

«Гэтыя фітанутрыенты ўключаюць антыаксіданты, якія даюць прадуктам колер і могуць прадухіляць узроставыя захворванні, такія як рак і хваробы сэрца», тлумачыць доктар Элізабэт Джонсан, ад'юнкт-прафесар ва ўніверсітэце Тафта.

### Энэргія зеляніны

Зялёныя садавіна і гародніна ўтрымліваюць карацыноіды, якія абараняюць ад захворванняў вачэй і могуць знізіць рызыку сардэчных захворванняў і рака скуры. Зеляніна таксама з'яўляецца выдатнай крыніцай энергії.

### Моц аранжавага

Аранжавыя і жоўтыя прадукты (морква, дыня, салодкая бульба) багатыя на бэта-каратын, тыпу вітаміну А, які ўмацоўвае вашу імунную сістэму.

### Лекавае чырвонае

Чырвоныя прадукты ўтрымліваюць рэчывы лікапін і антацыяны, якія дапамагаюць у барацьбе з ракам, а таксама могуць знізіць рызыку хваробы сэрца і інсульту.







**Дарагую бубулю**

*Тамару Адамовіч*

**Віншую з Днём нараджэння і 8 сакавіка!**

Сегодня, в День рожденья твой,
Желаю сердцем и душой:
Здоровья, бодрости и смеха,
Во всех делах твоих успеха!
Прими мои поздравленья,
Частицу моего тепла.
Желаю крепкого здоровья,
Уюта, счастья и добра.



*Унучка Настасся.*

*Галіну Віктараўну Казачок*

**Віншуем з юбілейным Днём народзін!**

В Ваш дневник судьба рисует красным
Две пятерки - пятьдесят и пять.
Пусть же будет этот день прекрасным!
И хотим мы дружно пожелать:
Пусть дожди проходят стороною,
Пусть поярче солнце светит Вам.
Больше светлых мыслей и покоя
И путевку на Мальдивы Вам к ногам



*Сваты Самсонавы*

# У Віцебскай вобласці ў 2012 годзе 176 дзяцей-сірот атрымалі сацыяльнае жыллё

**У Віцебскай вобласці ў 2012 годзе 176 дзяцей-сірот атрымалі сацыяльнае жыллё, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Віцебскім аблвыканкаме.**

Як адзначылі ў аддзеле па рабоце са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб, летась адзначаўся значны рост зваротаў грамадзян, якія маюць статут дзяцей-сірот, па пытаннях жыллёвых праваадносін. Са зваротаў вынікае, што гэта катэгорыя грамадзян не валодае дастатковай інфармацыяй пра свае права на атрыманне сацыяльнага жылля, неабходнасці пастаноўцы на жыллёвы ўлік да дасягнення 23 гадоў. Для абароны інтарэсаў дзяцей-сірот аблвыканкам накіраваў рэкамендацыі мясцовым выканаўчым органам, аднак дагэтуль выяўляюцца парушэнні жыллёвых правоў сірот, адсутнічае кантроль за ўтрыманнем замацаваных за дзецьмі жылых памяшканняў.

Па дадзеных на пачатак 2013 года ў вобласці пражываюць каля 4 тыс. дзяцей-сірот і дзяцей, пакінутых без апекі бацькоў, з іх 2,2 тыс. маюць замацаванае жыллё. На ўліку, якія маюць патрэбу ў забеспячэнні жылымі памяшканнямі сацыяльнага карыстання ў выканкамах, знаходзяцца амаль 4,6 тыс. чалавек, з іх 382 пастаўлены на ўлік летась. У 2013-м плануецца пабудаваць 284 кватэры сацыяльнага карыстання плошчай 13,9 тыс.кв.м.

*БЕЛТА.*



# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ «ВОЛЬНАГА ГЛЫБОКАГА»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 11 сакавіка




**06.00**, **07.15**, **08.20** Доброе утро,Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00,00.00** Новости.
**07.05**, **08.05** Деловая жизнь.
**07.10**, **08.10** Зона Х.
**09.10** В центре внимания.
**10.00** Приключенческая комедия **«Любовь с акцентом»** (Россия).
**12.10** Клуб редакторов.
**12.55** Вокруг планеты.
**13.45** Журналистское расследование.
**14.25** Тайны следствия.
**15.10**, **18.40** Новости региона.
**15.25** «Все песни для любимой». Концерт
**17.15** Все путем!
**17.40** «Виктория Тарасова».
**19.20** Специальный репортаж АТН.
**19.40, 23.40** Зона Х.
**20.00** Форум.
**21.00** Панорама.
**21.45** Народная комедия **«Сваты-4»** (Украина).
**00.15** День спорта.
**00.25** Сериал «Мастера ужасов». Фильм **«Валери на лестнице»** (США-Канада).




**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Артем Боровик. Он очень торопился жить».
**12.05** **«Неравный брак»**. Многосерийный фильм. Заключительная серия.
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Доброго здоровьица!» с Геннадием Малаховым.
**14.10** «Модный приговор».
**15.10** **«Обручальное кольцо»**. Многосерийный фильм.
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Смеха ради».
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Женская тайна. История с продолжением…».
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Открытый формат».
**22.10** Премьера. «Лиллехаммер».
**23.10** «Вечерний Ургант».
**23.50** **«До смерти красива»**. Многосерийный фильм.
**00.40-01.10** Ночные новости.




**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Военный детектив **«Покушение»** (Беларусь-Россия).
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.45** Сказка **«Золушка»** (СССР-США).
**12.20** Документальный сериал «Самобытные культуры» (Чехия-Великобритания).
**13.05** Фантастическая комедия **«Ангел-А»** (Франция).
**14.55** Под грифом «Известные».
**15.30** Детектив **«Журов-2»** (Россия).
**16.45** Белорусское времечко.
**17.55** Военный детектив **«Покушение»** (Беларусь-Россия).
**18.55** Хоккей. Кубок Надежды. Динамо-Минск-Динамо (Рига) . Прямая трансляция.
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Детектив **«Журов-2»** (Россия).
**22.40** Овертайм.
**23.10** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**00.05** Документальный сериал «Самобытные культуры» (Чехия-Великобритания).




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**09.00** «Неделя».
**10.10** «Представьте себе».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Под защитой».
**11.10** «Званый ужин».
**12.05** «Семейные драмы».
**13.00** «Репортерские истории».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Большой город».
**14.25** СТВ представляет: «Звездный ринг». Новый сезон. Кобрин против Мозыря.
**15.35** Концерт Михаила Задорнова.
**16.20** «Наше дело».
**16.30** «24 часа».
**16.50** **«Следаки»**. Сериал.
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **«Слово женщине»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Кино»: Итан Хоук, Лоренс Фишбёрн и Гэбриел Бирн в фильме **«НАПАДЕНИЕ НА 13-й УЧАСТОК»**. США - Франция, 2004 г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Военная тайна».
**00.45** ПРЕМЬЕРА. **«Адская кухня - 2»**.






**7:00** ПраСвет
**7:25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма)
**7:55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**8:20** Дакументальная гадзіна: «Бэркат і Маршо. Свабода і шчасце»
**9:15** Два на два (тэледыскусія)
**9:45** Euromaxx
**10:10** Форум (ток-шоу)
**11:00** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «У пошуках скарбаў»
**11:45** Фільматэка майстроў: **«Аер»**
**13:10** Эксперт
**13:45** Невядомая Беларусь: «Забойства напярэдадні вясны», дак. фільм, рэж. Вольга Нікалайчык, Польшча–Беларусь
**14:10** ПраСвет
**14:35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**15:05** Моўнік
**15:20** Дакументальная гадзіна: «Бэркат і Маршо. Свабода і шчасце»
**16:20** Два на два (тэледыскусія)
**16:50** Форум (ток-шоу)
**17:35** Відзьмо-невідзьмо : выд. 21
**18:05** Еўропа сёння
**18:35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма)
**18:45** Калыханка для самых маленькіх: «Цюхця, што ты за стварэнне?!»
**19:00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір)
**19:15** Студыя «Белсат»: Дэвайс
**19:20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў
**19:30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар
**20:00** Студыя «Белсат»: Навіны
**20:10** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры
**20:15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар
**20:35** Асабісты капітал
**21:00** Аб'ектыў (галоўнае выданне)
**21:25** Не прапусці!
**21:40** Студыя «Белсат»: Міную дзень
**21:45** Фільматэка майстроў: **«Аер»**
**23:10** Студыя «Белсат»
**0:55** Асабісты капітал
**1:15** Аб'ектыў
**1:45** Не прапусці!
**2:00** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма)

